# Голас Радзімы

№ 13 (1999)
26 сакавіка 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Вялікая ўвага ў нашай краіне ўдзяляецца развіццю мастацкай самадзейнасці працоўных. У калектывах мастацкай самадзейнасці Беларусі займаецца больш за мільён чалавек — кожны дзесяты жыхар рэспублікі. Творчая дзейнасць для людзей усіх узростаў і прафесій становіцца неабходнасцю, прыкметай і рысай савецкага ладу жыцця. Вось гэтыя сімпатычныя дзяўчаты, якіх вы бачыце на здымку, — удзельніцы народнага ансамбля танца «Чараўніцы», які сёлета адзначыў свой 10-гадовы юбілей. Самадзейныя артысткі — у большасці сваёй работніцы сталічнага гандлю — з поспехам выступаюць у канцэртах. А нядаўна яны вярнуліся з паездкі ў Румынію, дзе іх цёпла прымалі замежныя гледачы.

Фота Я. КОКТЫША.

АНТЫВАЕННЫЯ АКЦЫІ

## ЗАКЛІК ДА МІРУ

Рашучы пратэст супраць палітыкі мілітарысцкіх колаў Заходняй Еўропы і ЗША, якія нарошчваюць гонку ўзбраенняў і ўзмоцнена фарсіруюць праграму «зорных войнаў», прагучаў на сходзе жанчын — членаў клуба «Баявыя сяброўкі» пры Мінскай секцыі Савецкага камітэта ветэранаў вайны.

Дарагой цаной заплацілі людзі за тое, каб жыць у міры, сказала былая падпольшчыца, старшыня клуба Л. Сакалова. У майскія дні 1945 года мы верылі, што слова «вайна» назаўсёды знікне з нашага жыцця. Але цяпер па віне адміністрацыі ЗША міжнароднае становішча зноў крайне напружанае. Мы адабраем мірныя ініцыятывы Савецкага ўрада і, у прыватнасці, Заяву Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова ад 28 лютага гэтага года, у якой гучыць заклік заключыць пагадненне паміж СССР і ЗША аб ліквідацыі ракет сярэдняй дальнасці ў Еўропе.

У рэзалюцыі, накіраванай кангрэсменам і прэзідэнту ЗША, удзельніцы сходу заклікалі не на словах, а на справе праявіць добрую волю і імкненне да ядзернага раззбраення, разрадкі, трывалага міру.

ДНІ ДРУЖБЫ

## СЯБРЫ СУСТРАКАЮЦЦА ЗНОЎ

У Польскай Народнай Рэспубліцы прайшлі традыцыйныя Дні брацкай дружбы і супрацоўніцтва Бяла-Падляскага ваяводства і Брэсцкай вобласці, прысвечаныя 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. У Доме савецкай навукі і культуры ў Варшаве была адкрыта выстаўка, прымеркаваная да гэтай падзеі. Яна расказала аб эканамічных і культурных сувязях двух прыгранічных рэгіёнаў за апошнія пятнаццаць гадоў.

У рамках Дзён адбыліся гутаркі па актуальных праблемах грамадска-палітычнага жыцця, семінары, мітынг-канцэрт пад дэвізам «Моладзь у барацьбе за мір», выступленні самадзейных артыстаў.

У мерапрыемствах прыняла ўдзел дэлегацыя прадстаўнікоў грамадскасці Брэсцкай вобласці.

НА РАДЗІМЕ ЛЕНІНА

## АЎТАРЫ ПРАЕКТА — БЕЛАРУСКІЯ ДОЙЛІДЫ

Прапанаваны беларускімі дойлідамі праект забудовы Свіяжскай поймы прызнаны на конкурсе найбольш удалым. Быстрая Свіяга — другая рака Ульянаўска, якая нясе свае воды па суседству з Волгай цераз горад.

К 1995 году, калі будзе адзначацца 125-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна, у горадзе Ульянаўску вырашана ўзвесці будынкі Дзяржаўнага універсітэта, міжнароднага маладзёжнага турысцкага цэнтра, Палаца спорту, шэраг іншых збудаванняў. Гэтыя новабудоўлі нельга размясціць у цэнтральнай частцы горада на вянцы: тут размешчаны дзяржаўны гісторыка-мемарыяльны запаведнік «Радзіма Уладзіміра Ільіча Леніна».

Задачу ўзяліся вырашыць аўтарскія калектывы з вядучых праектных інстытутаў Масквы, Ленінграда, Мінска і Ульянаўска, якія прынялі ўдзел у адкрытым творчым конкурсе. Чарцяжы і макеты саісканнікаў экспанаваліся ва Ульянаўску і абмяркоўваліся архітэктурнай грамадскасцю, жыхарамі горада. Журы аддало першынства аўтарскаму калектыву інстытута «Белдзяржпраект».

Мінскія дойліды атрымалі права распрацаваць праект дэтальнай планіроўкі забудовы поймы Свіягі.

ВЫТВОРЧЫ КААПЕРАТЫЎ

## ПА ПРЫНЦЫПУ САМААКУПНАСЦІ

Сімвалічную назву — «Прагрэс» — далі першаму ў Брэсце вытворчаму кааператыву. Ён пачаў працаваць па прынцыпу поўнай самаакупнасці — за невялікую плату набывае ў Брэсцкага дыванова-суконнага аб'яднання адходы, уносіць арэндную плату за памяшканне, выплачвае падаходны падатак.

Пры аддзелцы з вытканых дываноў састрыгаецца адзін-два міліметры ворсу, гаворыць І. Гаравой — старшыня кааператыва, у састаў якога ўвайшлі ў асноўным пенсіянеры. Раней гэтыя адходы, іх за год збіралася да 700 тон — выкідвалі на звалку. А для нас яны сталі сыравінай. Дырэкцыя аб'яднання выдзеліла ў адным з цэхаў невялікае памяшканне, перадала ў арэнду два прэсы. На іх мы вырабляем уцяпляльныя пліты — квадраты са стараной 60 і таўшчынёй 5 сантыметраў.

Першыя вырабы з кляймом «Кааператыў «Прагрэс» ужо накіраваны ў гандлёвую сетку. Вывучэнне рынчачнай кан'юнктуры паказала, што патрэбнасць у такім эфектыўным і танным уцяпляльніку вялікая: ён знойдзе прымяненне на будаўніцтве індывідуальнага жылля ў вёсках, дачных домікаў.

У гарадах вобласці намечана стварыць сто кааператываў па нарыхтоўцы і перапрацоўцы адходаў вытворчасці, другаснай сыравіны, аказанню насельніцтву паслуг у будаўніцтве і рамонце жылля, гаражоў, садовых домікаў.

МЕЛІЯРАЦЫЯ

## РУКАТВОРНАЕ МОРА

На тры дзесяткі метраў вышэй рэчышча Дняпра будзе размешчана самае вялікае на беларускім Палессі рукатворнае Днепра-Брагінскае мора.

Меліяратары трэста «Гомельводбуд» закончылі збудаванне рэчышча і перапампавалі ў яго першыя мільёны тон вады. Яны стварылі комплекс з помпавай станцыі, разгалінаванай сеткі водаправодаў і рыбаахоўных прыстасаванняў.

З ІНСТЫТУЦКАЙ ЛАБАРАТОРЫІ

## РАСК... ЖА ЦЕПЛАВАЯ ХВАЛЯ

Нябачная цеплавая хваля, якая бяжыць да даследуемай дэталі, хутка і дакладна паведамляе кантралёру аб скрытых дэфектах у матэрыяле. Такую сістэму д... юстыкі распрацоўваюць вучоныя ... удэнты Беларускага політэхнічнага інстытута.

Яна зусім бясшкодная для арганізма чалавека і можа выкарыстоўвацца для абследавання любых матэрыялаў — металаў, пластмас.

Сістэма ўзнаўлення вынікаў праверкі, якая ўваходзіць у комплекс апаратуры, універсальная. Яна апаратыўна апрацоўвае звесткі, атрыманыя не толькі з дапамогай цеплавой хвалі, але і такіх традыцыйных сродкаў, як ультрагук, магнітаграфія, ядзерны магнітны рэзананс і іншыя.

Электроніка надзелена здольнасцю аналізаваць сітуацыю і можа самастойна кантраляваць, скажам, працэс аўтаматычнай зваркі. Яна заўважае самыя нязначныя дэфекты, але не зніме трывогі, калі ацэньвае іх як нязначныя. Варта ж якасці выйсці за дапушчальныя межы, як «кантралёр» тут жа ўмешваецца ў тэхналогію.

ПРЫРОДА І МЫ

## ЗАХАВАЛІ ЛАНДШАФТ

Творча аднесліся да будаўніцтва асушальнай сістэмы ў калгасе «17 партз'езд» Рагачоўскага раёна меліяратары трэста «Гомельводбуд».

Яны стварылі такі аграландшафт, у якім максімальна захаваны найбольш каштоўныя кампаненты расліннага і жывёльнага свету. У некранутым стане пакінута тут верхавое балота плошчай 60 гектараў. Не зачапілі і сасновы бор, які размясціўся амаль на пяці гектарах.

Прадугледжаны і комплекс мер па ахове возера Крушынаўскае. Па прапанове інспектараў па ахове прыроды ўчастак з альхова-вербавай расліннасцю вакол возера быў поўнасцю выключаны з плошчы меліярацыі, што станоўча адаб'ецца на яго водным рэжыме.

САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## САНАТОРЫЙ ДЛЯ ВЯСКОЎЦАЎ

«Алеся» — так н... і новы міжкалгасны санаторый, што пабудаваны ў Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці. Чыстае паветра Палесся, мясцовыя мінеральныя воды, лясная цішыня будуць добрымі саюзнікамі дактароў.

Гэта ўжо сёмая рэспубліканская міжкалгасная здра... . Да канца пяцігодкі ў Беларус... крыюцца яшчэ два санаторыі, будуць пашыраны дзеючыя.

ЛЕЧАЦЬ БУЛЬБУ





**У садружнасці з вучонымі Беларускага навукова-даследчага інстытута бульбаводства і агародніцтва ў калгасах і саўгасах рэспублікі ствараюцца вытворчыя лабараторыі па аздараўленню бульбы. З тоненькіх парасткаў, якія вырашчаны ў прабірцы з выключна здаровай пупышкі, атрымліваюць клубні, устойлівыя да захворванняў, здольныя пры размнажэнні ўзняць ураджайнасць культуры да 400 цэнтнераў з гектара. Цяпер у інстытуце праходзяць навучанне спецыялісты з розных абласцей рэспублікі.**

**НА ЗДЫМКАХ: у аддзеле насеннязнаўства бульбы. Заняткі праводзіць старшы навуковы супрацоўнік інстытута Ніна ЯШЧАНКА (у цэнтры); у прабірцы — парасткі бульбы.**

ПРАФЕСІЯ Ў СПАДЧЫНУ



**Педагогамі былі бацькі Ларысы Шышковай. Яна таксама выбрала гэтую прафесію і вось ужо больш за тры дзесяткі гадоў працуе настаўніцай. Л. Шышкова выкладае беларускую мову і літаратуру ў школе невялікага гарадка Фаніпаль, што непадалёку ад Мінска.**

**НА ЗДЫМКУ: Ларыса ШЫШКОВА.**

ТАВАРЫ ДЛЯ НАРОДА

## «АКІЯН-222»

Прыемным сюрпрызам для пакупнікоў стане новы радыёпрыёмнік «Акіян-222», распрацаваны спецыялістамі мінскага аб'яднання «Гарызонт». У ім — псеўдасенсорнае пераключэнне дыяпазонаў, мноства ўстройстваў, якія аўтаматычна рэгулююць бездакорную работу прыбора на розных хвалях. Не выпадкова на гэтых характарыстыках ён прыроўнены да лепшых сусветных узораў.

У навінцы прыменены інтэгральныя схемы, больш дасканалае сілкаванне, таму мадэль намнога лягчэйшая за свае папярэднікі, можа працаваць ад сеткі без якіх-небудзь устройстваў-пасрэднікаў.

Упершыню навінка з'явіцца на традыцыйных аптовых кірмашах, якія пройдуць вясной. З цягам часу яна поўнасцю заменіць на канвееры выпускаемыя цяпер мадэлі.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ЖОДЗІНА. У горадзе, дзе жывуць стваральнікі магутных аўтамабіляў «БелАЗ», паспяхова ажыццяўляецца праграма будаўніцтва дашкольных устаноў. Сёння ў распараджэнні юных гараджан больш за дваццаць садоў і ясляў, многія з якіх пабудаваны на сродкі прадпрыемстваў.

ПІНСК. Рэйсам Пінск — Брэст з новага аўтавакзала Пінска нядаўна адправіліся першыя пасажыры. У сучасная, утульнай зале чакання могуць размясціцца да 300 чалавек.

ГРОДНА. Першых гасцей прыняла гасцініца «Турыст», якая ўпрыгожыла новы жылы мікраёна у занёманскай частцы горада: на сямі паверхах у зручных нумарах адначасова могуць размясціцца 320 чалавек.

МАГІЛЁЎ. Спецыялізаваны магазін для індывідуальных забудоўшчыкаў «Наш дом» адкрыўся ў абласным цэнтры. Тым, хто вырашыў будаваць жылы дом або дачу, прапануюць узоры вырабаў больш чым трохсот назваў.

БРЭСТ. Ордэры на кватэры атрымалі дваццаць сем'яў чыгуначнікаў Брэсцкага вузла. Наваселлі яны спраўляюць на бульвары Міцкевіча. Сёлета чыгуначнікі намецілі ўзвесці яшчэ каля 300 кватэр.

МАР'ІНА ГОРКА. Пенсіянер В. Барысевіч прынёс у раённую ашчадную касу пяць тысяч рублёў уласных збераженняў і папрасіў пералічыць іх у Фонд міру. Гэта ўжо другі буйны ўклад ветэрана на гэты рахунак.

## РЫХТУЕЦЦА РЭФОРМА ВЫБАРЧАЙ СІСТЭМЫ

# МАКСІМУМ ДЭМАКРАТЫЗМУ

Працэс дэмакратызацыі ўсіх бакоў грамадскага жыцця, які адбываецца ў Савецкім Саюзе, хутка закране і выбарчую сістэму. Аб гэтым, у прыватнасці, заявіў Міхаіл Гарбачоў, выступаючы на студзеньскім Пленуме ЦК КПСС. У чым сутнасць мяркуемых змяненняў?

Але спачатку некалькі слоў аб саміх прынцыпах выбараў у СССР — гэтыя прынцыпы вынікаюць з самой прыроды сацыялізму і, натуральна, застануцца нязменнымі.

Савецкая выбарчая сістэма свабодная ад многіх абмежаванняў, уласцівых аналагічным сістэмам заходніх краін. У СССР няма, напрыклад, цэнзу аседласці: згодна правілам складання спісаў выбаршчыкаў, у іх уключаюцца ўсе выбаршчыкі, якія жывуць — часова ці пастаянна — на тэрыторыі данай выбарчай акругі. Няма і цэнзу пісьменнасці. Канстытуцыя краіны дае права ўдзелу ў выбарах усім грамадзянам, якія дасягнулі 18 год, незалежна ад іх расавай ці нацыянальнай прыналежнасці, полу, веравызнання, сацыяльнага паходжання, маёмаснага становішча і мінулай дзейнасці.

Для вылучэння кандыдатур таксама няма ніякіх абмежаванняў, звязаных з сацыяльным ці маёмасным становішчам кандыдатаў у дэпутаты, іх мінулай дзейнасцю, рэлігійнымі пераканаммі, сацыяльнай прыналежнасцю і полам. Існуе толькі адзіны цэнз — узроставы: у Вярхоўны Савет СССР можа быць выбраны любы чалавек ва ўзросце ад 21 года і больш, а ў рэспубліканскія Вярхоўныя Саветы і ў мясцовыя Саветы народных дэпутатаў — з 18 год.

Усе расходы па арганізацыі выбараў, на паездкі кандыдатаў у дэпутаты па краіне, на іх выступленні па радыё і тэлебачанні поўнасцю бярэ на сябе дзяржава.

**Існуючы ў СССР механізм выбараў забяспечвае прадстаўніцтва ў органах улады ўсіх слаёў і груп насельніцтва.** Адно са сведчанняў таму — цяперашні склад дэпутацкага корпуса на ўсіх узроўнях — ад мясцовых Саветаў да Вярхоўнага Савета СССР. У гэтыя органы выбрана ў агульнай складанасці звыш 2 мільёнаў 300 тысяч дэпутатаў. Амаль 70 працэнтаў з іх — рабочыя і сяляне, астатнія — інжынерна-тэхнічныя работнікі, вучоныя, настаўнікі, урачы, дзеячы культуры і г. д. Прыкладна палавіна дэпутатаў — жанчыны, звыш трэці — маладыя людзі (да 30 год). Дэпутаты прадстаўляюць практычна ўсе нацыі і народнасці Савецкага Саюза, адлюстроўваюць разнастайнасць інтарэсаў усяго насельніцтва. І ўжо гэта само па сабе — вялікае дасягненне савецкай сацыялістычнай дэмакратыі.

Разам з тым, як і ўсе палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя інстытуты, савецкая выбарчая сістэма не можа заставацца ў застылым стане. Яна не можа быць у баку ад перабудовы, якая цяпер праводзіцца ў краіне, ад новых працэсаў у грамадстве — расшырэння публічнасці, барацьбы з фармалізмам, развіцця спаборніцтва ва ўсіх справах. Сутнасць гэтых працэсаў якраз і павінна адлюстраваць рэформа выбараў. Мэта яе заключаецца ў тым, каб даць выбаршчыкам больш шырокія магчымасці для волевыяўлення на ўсіх стадыях перадвыбарнай і выбарнай кампаніі.

Каб было зразумела, пра што ідзе гутарка, раскажу коратка аб тым, як праходзіць адбор насельніцтвам краіны сваіх прадстаўнікоў у выбарныя органы сёння. Гэты адбор праводзіцца не столькі ў момант галасавання, колькі значна раней і ў некалькі тураў — у ходзе ўсёй выбарчай кампаніі. Як гэта выглядае на практыцы?

У адпаведнасці з законамі краіны **ні адзін чалавек, кім бы ён ні быў, не мае права вылучыць сам сябе кандыдатам у дэпутаты. Такое права прадастаўлена толькі грамадскім арганізацыям і агульным сходам калектываў прадпрыемстваў і ўстаноў,** прычым кандыдатуры на гэтых сходах могуць прапаноўвацца як ад імя грамадскіх арганізацый, напрыклад, прафсаюзаў, так і асобнымі грамадзянамі. Натуральна, яны часцей за ўсё вылучаюць кандыдатаў са свайго асяроддзя, тых, каго добра ведаюць, хто праявіў схільнасць да грамадскай работы і карыстаецца ў іх аўтарытэтам.

У ходзе абмеркавання кожнай з вылучаных кандыдатур любы чалавек мае магчымасць выказаць сваю думку, заявіць адвод і прапанаваць новую кандыдатуру. У выніку такой усебаковай дыскусіі агульны сход калектыву завода, калгаса ці ўстановы большасцю галасоў аддае перавагу найбольш дастойнаму, з пункту гледжання прысутных, кандыдату.

Наступны тур адбору — акружныя перадвыбарныя нарады. На іх прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і працоўных калектываў адпаведнай выбарчай акругі яшчэ раз абмяркоўваюць усе вылучаныя па акрузе кандыдатуры і пасля шырокага і адкрытага абмеркавання дагаворваюцца аб падтрымцы адзінага кандыдата. Яго імя перадаецца ў выбарчую камісію для рэгістрацыі і ўносіцца ёю ў бюлетэні для тайнага галасавання, а астатнія кандыдаты альбо самі здымаюць свае кандыдатуры, альбо гэта робяць за іх тыя арганізацыі і калектывы, якія іх вылучалі.

**Такая сістэма паэтапнага адбору кандыдатаў у [...]таты, бясспрэчна, мае свае [...]равагі, паколькі дае большыя гарантыі ад памылковага выбару, чым сістэма адбору толькі ў момант галасавання.** Разам з тым сам працэс галасавання становіцца пры гэтым у многім фармальным, таму што на кожнае месца ў Сав[...]е балаціруецца толькі адзін [...]ыдат. Акрамя таго, ад працэ[...], папярэдняга адбору як бы «адчужаюцца» многія з выбаршчыкаў, паколькі ажыццяўляюць яго не яны непасрэдна, а іх прадстаўнікі на нарадах. Ім жа самім застаецца толькі пацвердзіць (ці не пацвердзіць) галасаваннем правільнасць зробленага за іх выбару.

Каб ліквідаваць гэтыя негатыўныя фактары, у СССР мяркуецца дэмакратызаваць працэдуру выбараў. Некаторыя лічаць, што неабходна ўключаць у выбарчыя бюлетэні ўсіх вылучаных па акрузе кандыдатаў. Выказваюцца таксама прапановы: прадаставіць права вылучэння кандыдатур не толькі грамадскім арганізацыям і працоўным калектывам, але і сходам грамадзян па месцу жыхарства. Ёсць прапановы і аб тым, каб даць кандыдатам у дэпутаты магчымасць праводзіць у ходзе кампаніі па выбарах «конкурсы» іх выбарчых праграм.

«Спаборныя выбары дадуць вялікую перавагу: людзі будуць параўноўваць праграмы кандыдатаў, а не толькі іх біяграфіі, дзелавыя і арганізатарскія таленты, — выказвае, напрыклад, сваё меркаванне на старонках газеты «Московские новости» Арнольд Руйтэль, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Эстонскай ССР.— Праграма кандыдатаў можа заключацца, скажам, у тым, як распарадзіцца гарадскім бюджэтам. І выбаршчыкі будуць галасаваць не толькі за канкрэтную асобу, але і за той шлях развіцця свайго раёна, горада, які іх больш задавальняе».

У практычным плане змяненні ў выбарчую сістэму будуць унесены пасля старанная вывучэння думкі саміх выбаршчыкаў, аналізу ўсіх прапаноў і пажаданняў. Для таго каб улічыць пункты гледжання як мага большай колькасці грамадзян, праект заканадаўчага акта аб унясенні карэктываў у выбарчую сістэму мяркуецца апублікаваць для шырокага грамадскага абмеркавання.

**Валерый ТАРАСАЎ.**

## ІНДЫВІДУАЛЬНАЯ ПРАЦОЎНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

# ЦІ НЕ СУПЯРЭЧЫЦЬ ГЭТА САЦЫЯЛІЗМУ?

**На апошняй сесіі Вярхоўнага Савета СССР чатыры месяцы назад у нашай краіне быў прыняты Закон аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці. Чытачоў газеты «Голас Радзімы», мяркуючы па рэдакцыйнай пошце, цікавіць гэтая тэма. Таму наш карэспандэнт сустрэўся са старшынёй Дзяржаўнага камітэта БССР па працы Анатолем ФАМІЧОМ і задаў яму шэраг пытанняў, якія датычаць Закона аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці.**

*— Згадзіцеся, Анатоль Міхайлавіч, што з'яўленне гэтага Закона было ў нечым нечаканым. Бо на працягу многіх дзесяцігоддзяў індывідуальная працоўная дзейнасць у нас не толькі не заахвочвалася, але і ўсяляк абмяжоўвалася. І раптам яна ўзаконьваецца? Заходняя прэса адрэагавала на гэта адназначна: майляў, урэшце і ў Савецкім Саюзе ацанілі вартасці прыватнага прадпрымальніцтва. Таму нашых чытачоў перш за ўсё цікавіць пытанне: ці не супярэчыць новы Закон прынцыпам сацыялізму?*

— Ніякіх супярэчнасцей няма. Бо гаворка ідзе не пра прыватнае прадпрымальніцтва, а менавіта пра індывідуальную працоўную дзейнасць. А гэта розныя рэчы. Індывідуальная працоўная дзейнасць грунтуецца выключна на асабістай працы грамадзян, а таксама членаў іх сямей. І толькі. Наём рабочай сілы, які непазбежна выклікае эксплуатацыю чалавека чалавекам, у нашым грамадстве катэгарычна забаронены. Зразумела, не дазваляе гэтага і новы Закон.

Іншая справа, што індыві[...]льная працоўная дзейнасць, якая дагэтуль у нас сапраўды не заахвочвалася, хаця і была даволі шырока распаўсюджана, цяпер прызнана карыснай для грамадства. Закон дае чалавеку магчымасць атрымаць дадатковыя даходы ў адпаведнасці з затратамі сваёй працы. Гэта [...]скае і Канстытуцыя СССР. І калі р[...] тут маглі быць неабгрунтаваныя абмежаванні, дык перш за ўсё таму, што не было адзінага прававога дакумента, які б рэгуляваў індывідуальную працоўную дзейнасць. Існаваўшыя ж замест яго нарматыўныя акты ці супярэчылі адзін аднаму, ці наогул безнадзейна ўстарэлі, не адпавядалі сучасным умовам і патрэбам грамадства.

*— Закон закранае перш за ўсё сферу сервісу. Ці значыць гэта, што без індывідуальнага сектара дзяржаўныя прадпрыемствы не здольныя вырашыць узнікшыя тут праблемы?*

— Не варта ўскладваць такія вялікія надзеі на індывідуальных падрадчыкаў. Яны здольныя ўзяць на сябе толькі вельмі нязначную частку (па папярэдніх падліках, менш аднаго працэнта) агульнага аб'ёму паслуг, у якіх мае патрэбу насельніцтва. Асноўнай жа крыніцай задавальнення попыту была і застаецца грамадская вытворчасць. Справы тут паступова паляпшаюцца. У рамках Комплекснай праграмы развіцця вытворчасці тавараў народнага спажывання і сферы паслуг на 1986—2000 гады ажыццяўляюцца буйныя мерапрыемствы: удасканальваюцца гаспадарчы механізм, формы арганізацыі і стымулявання працы.

Але індывідуальная працоўная дзейнасць карысная для грамадства не толькі таму, што можа спрыяць больш поўнаму насычэнню рынку таварамі і паслугамі. Яна яшчэ павысіць і занятасць насельніцтва, перш за ўсё пенсіянераў, інвалідаў, хатніх гаспадынь, актыўнай працай, дасць людзям сумленны дадатковы заработак.

*— Скажам, чалавек вырашыў заняцца якім-небудзь відам індывідуальнай працоўнай дзейнасці. Куды яму трэба звярнуцца за дазволам?*

— Каб атрымаць дазвол, трэба звярнуцца ў выканаўчы камітэт мясцовага Савета народных дэпутатаў. Там выдадуць рэгістрацыйнае пасведчанне ці патэнт. Віды дзейнасці, на якія можна набыць патэнт, і памер штогадовай платы за яго вызначаюцца Саветам Міністраў рэспублікі. Той, хто мае патэнт, ад выплаты падатку з даходаў, зразумела, вызваляецца. У астатніх жа выпадках даходы абкладваюцца падаткам. Таму індывідуальныя падрадчыкі, якія не маюць патэнтаў, павінны раз у год у вызначаны тэрмін падаваць дэкларацыю аб сваіх даходах у фінансавы орган выканаўчага камітэта.

*— На якую дапамогу ад дзяржавы можа разлічваць індывідуальны падрадчык?*

— Яму могуць здаць у арэнду службовае памяшканне, дапамагчы набыць інструмент, сыравіну, матэрыялы, збыць гатовую прадукцыю. Органы дзяржзабеспячэння будуць выдзяляць гэтым людзям неабходныя матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы. Дзяржава можа прадаставіць таксама крэдыт.

*— А як быць з рэкламай?*

— Мясцовыя ўлады павінны і тут дапамагаць. Зразумела, што майстэрні, пункты паслуг і іншыя падобныя «кропкі» будуць адпаведным чынам аформлены. Пра месца, час і віды паслуг, якія аказваюць індывідуальныя падрадчыкі, насельніцтва даведаецца з аб'яў на рэкламных шчытах, з паведамленняў мясцовых газет і радыё. Думаецца, што дэфіцыту інфармацыі не будзе.

*— І ўсё ж цалкам магчыма, што недзе такім людзям будуць ставіць бар'еры, прыдумваць самыя розныя абмежаванні. У нас жа гадамі выхавана насцярожанае стаўленне да чалавека, які займаецца індывідуальнай працай: ён, майляў, «халтуршчык», «абрывае капейку»...*

— На тое і прыняты Закон, каб пакласці канец практыцы неабгрунтаваных абмежаванняў і ўзяць індывідуальную працоўную дзейнасць пад кантроль дзяржавы. Гэта канкрэтны і ясны дакумент. І чалавеку, які сумленнай працай атрымлівае дадатковы заработак, ён будзе служыць надзейнай прававой асновай. Калі ж грамадзянін лічыць, што дзеянні мясцовых улад незаконныя, ён можа звярнуцца са скаргай у выканком вышэйстаячага Савета народных дэпутатаў ці ў Савет Міністраў рэспублікі.

*— Хаця Закон уступае ў дзеянне толькі з 1 мая 1987 года, тым не менш ужо зараз, наколькі мне вядома, ён знаходзіць у рэспубліцы практычнае прымяненне. Прывядзіце, калі ласка, прыклады.*

— Пераважна гэта эксперыменты, мэта якіх — адпрацаваць механізм дзеяння новага Закона.

На вуліцах Мінска вы, напэўна ж, бачылі асабістыя машыны, якія працуюць у якасці таксі. Плата за праезд у іх такая ж, як і ў дзяржаўным таксі — 20 капеек за кіламетр. Працуюць яны не больш чатырох гадзін па пятніцах і васьмі — у выхадныя і святочныя дні. За кожную гадзіну работы вадзіцель павінен пералічыць дзяржаве на спецыяльны банкаўскі рахунак адзін рубель. Усё ж, што ён заробіць за гэты час, — яго (мінус, зразумела, падаходны падатак).

Прыкладам прымянення новага Закона можа служыць і кааператыў «Сувенір», які створаны нядаўна ў Мінску. Яго арганізавалі 17 пенсіянераў, інвалідаў і хатніх гаспадынь. З адходаў тэкстыльнай прамысловасці яны выпускаюць календары, вымпелы і іншыя сувенірныя тавары. Правамоцная дзейнасць гэтага кааператыва была зацверджана рашэннем выканкома Мінскага гарадскога Савета.

У розных гарадах рэспублікі ствараюцца таксама кааператывы па рамонту кватэр, асабістых аўтамабіляў, рамонту і вырабу мэблі па індывідуальных заказах, догляду за хворымі людзьмі і іншыя.

Дзяржава заахвочвае аб'яднанне людзей, якія займаюцца індывідуальнай працоўнай дзейнасцю, у кааператывы і добраахвотныя таварыствы.

*— Ці не думаеце вы, што пашырэнне індывідуальнай працоўнай дзейнасці можа выклікаць у асобных людзей прыватнаўласніцкія настроі?*

— Думаю, што такіх людзей будзе няшмат. Яны, напэўна ж, пастараюцца больш, што называецца, увярваць, нейкім чынам абысці Закон, і гэтая скваплівасць рана ці позна іх загубіць. Бо, як я ўжо казаў, індывідуальная працоўная дзейнасць будзе кантралявацца дзяржавай.

Гутарку вёў **Ігар ГЕРМЯНЧУК.**

# ЗАПРАШЭННЕ ДА КОНКУРСУ!

**РЭДАКЦЫЯ ГАЗЕТЫ АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС НА ЛЕПШАЕ ПІСЬМО НАШЫХ ЗАМЕЖНЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ, ПРЫСВЕЧАНАЕ 70-ГОДДЗЮ ВЯЛІКАЙ КАСТРЫЧНІЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ.**

Паважаныя суайчыннікі!

У гэтым годзе наша Радзіма будзе святкаваць свой гістарычны юбілей. Сем дзесяцігоддзяў назад у Расіі адбылася Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя і пачалося ажыццяўленне запаветнай мары працоўных людзей — будаўніцтва грамадства, дзе праца свабодная ад эксплуатацыі, дзе пануе сацыяльная справядлівасць, дзе замест нацыянальнай розні перамагае дружба народаў.

Вам, паважаныя суайчыннікі, каму па волі лёсу даводзіцца жыць на чужыне, добра вядома, колькі выпрабаванняў і нягод выпала за гэтыя гады на долю нашай Айчыны. Для большасці з вас іменна яны і сталі прычынай разлукі з родным краем. Але мы ведаем і ганарымся тым, што нашы землякі ўдалечыні ніколі не забывалі і не забываюць Радзіму, назаўсёды захавалі любоў да яе, уважліва сочаць за ўсімі падзеямі ў нашай краіне. Аб гэтым вы пішаце нам у пісьмах, расказваеце пры сустрэчах у Беларусі. Добра ведаем мы і аб тым, што ў многіх капіталістычных краінах, дзе жывуць суайчыннікі, супраць нашай Савецкай дзяржавы пастаянна вялася і вядзецца кампанія нападак і паклёпу, сродкі масавай інфармацыі з усіх сіл стараюцца ўнушыць людзям страх, пасеяць недавер'е да першай у свеце краіны сацыялізму, запалохваюць іх міфічнай пагрозай з Усходу.

Але, што б ні гаварылі пра нас ворагі, факт застаецца фактам: раней бедная і непісьменная, наша краіна за лічаныя дзесяцігоддзі дасягнула нябачнага ў гісторыі эканамічнага, навуковага і сацыяльнага прагрэсу.

Усё гэта адбывалася і адбываецца на вашых вачах, паважаныя чытачы. Большасць нашых суайчыннікаў, якія жывуць у розных краінах за тысячы кіламетраў ад роднага краю, ніколі не парывалі духоўных сувязей з ім, усім сэрцам усвядомілі і адчулі веліч сваёй сацыялістычнай Радзімы. Яны ганарацца яе дасягненнямі, дзеляць з намі яе радасці і беды. Успомнім хаця б суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны. Колькі сіл і энергіі было аддадзена суайчыннікамі, каб адправіць на сваю Радзіму харчаванне, адзенне, медыкаменты, грошы.

З першых дзён існавання нашай дзяржавы яна выступала за мір паміж народамі планеты. Паслядоўная міралюбівая палітыка Савецкага Саюза заваявала нашай краіне і яе ўраду высокі аўтарытэт ва ўсіх людзей добрай волі на Зямлі. Актыўна падтрымліваюць яе і нашы замежныя суайчыннікі. Многія арганізацыі і асобныя землякі выказваюць гэты клопат, рэгулярна пералічваючы грошы ў Савецкі фонд міру.

Напярэдадні вялікага свята нашай краіны — 70-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі мы звяртаемся да ўсіх нашых замежных чытачоў з прапановай прыняць удзел у конкурсе на лепшае пісьмо, прысвечанае гэтай падзеі. Мы просім вас уваскрасіць у памяці былое і, агляну́ўшыся на пражытыя гады, расказаць аб самых памятных і хвалюючых падзеях, якія пакінулі глыбокі след у вашым сэрцы. Мы просім вас падзяліцца сваімі ўспамінамі аб розных перыядах жыцця Радзімы, сведкамі якіх вы былі, расказаць аб сустрэчах з роднай зямлёй пасля доўгіх год разлукі, падзяліцца думкамі і аб тым, у чым вы бачыце аснову і сілу нашай сацыялістычнай дзяржавы, у чым, на ваш погляд, перавагі савецкага ладу жыцця.

У кожнага з вас свая любоў да Радзімы, сваё разуменне падзей, якія адбываюцца тут. Кожны па-свойму ўспрымае і тыя вялікія перамены, якія адбыліся і адбываюцца ў нашай краіне.

Некаторыя з вас яшчэ помняць, якой была Беларусь да ўстанаўлення тут Савецкай улады. Сцяпан Філютовіч з Аргенціны, напрыклад, многа расказваў нам аб тым, як яго родныя жылі ў курных хатах без падлогі, разам са свойскай жывёлай, аб тым, што яго сям'я была вымушана паехаць, таму што не было сваёй зямлі і не было на што жыць. У канцы гута[illegible] ён сказаў: «Нават калі б вы [illegible]рабілі нічога іншага, я б прагаласаваў за Савецкую ўладу толькі за тое, што яна дала маім аднавяскоўцам зямлю і ім не трэба і ніколі не давядзецца бадзяцца па чужых краях у пошуках хлеба». Для нашага земляка з Канады [illegible]дзіміра Гаўрыцкага самымі яр[illegible] ўражаннямі пасля паездкі на Радзіму стала тое, што любы чалавек можа тут бясплатна атрымаць медыцынскую дапамогу, адукацыю, назаўсёды пазбаўлены страху згубіць работу.

Словам, тэмы вашых пісем могуць быць самымі рознымі, таму што ўсё, што мае сёння наш народ, чым ганарыцеся вы, нашы паважаныя суайчыннікі, было б немагчыма без перамогі Вялікага Кастрычніка.

Упэўнены, што кожнаму з вас ёсць што сказаць наконт гэтага. Мы чакаем вашых пісем. Яны будуць апублікаваны на старонках «Голасу Радзімы». Аўтарам найбольш цікавых пісем Беларускае таварыства «Радзіма» і рэдакцыя газеты вышлюць памятныя падарункі і сувеніры.

Пішыце нам па адрасу:
**МІНСК-ГСП,
ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
РЭДАКЦЫЯ ГАЗЕТЫ
«ГОЛАС РАДЗІМЫ».**

# ПРИГЛАШЕНИЕ К КОНКУРСУ!

**РЕДАКЦИЯ ГАЗЕТЫ ОБЪЯВЛЯЕТ КОНКУРС НА ЛУЧШЕЕ ПИСЬМО НАШИХ ЗАРУБЕЖНЫХ СООТЕЧЕСТВЕННИКОВ, ПОСВЯЩЕННОЕ 70-ЛЕТИЮ ВЕЛИКОЙ ОКТЯБРЬСКОЙ СОЦИАЛИСТИЧЕСКОЙ РЕВОЛЮЦИИ.**

Уважаемые соотечественники!

В этом году наша Родина будет праздновать свой исторический юбилей. Семь десятилетий назад в России произошла Великая Октябрьская социалистическая революция и началось претворение в жизнь заветной мечты трудящихся людей — строительство общества, где труд свободен от эксплуатации, где царит социальная справедливость, где вместо национальной розни торжествует дружба народов.

Вам, уважаемые соотечественники, кому по воле судьбы приходится жить на чужбине, хорошо известно, сколько испытаний и невзгод выпало за эти годы на долю нашего Отечества. Для большинства из вас именно они и стали причиной разлуки с родным краем. Но мы знаем и гордимся тем, что наши земляки в дальних странах никогда не забывали и не забывают Родину, навсегда сохранили любовь к ней, внимательно следят за всеми событиями в нашей стране. Об этом вы пишете нам в письмах, рассказываете при встречах в Белоруссии. Хорошо знаем мы и о том, что во многих капиталистических странах, где проживают соотечественники, против нашего Советского государства постоянно велась и ведется кампания нападок и клеветы, средства массовой информации из всех сил стараются внушить людям страх, посеять недоверие к первой в мире стране социализма, [illegible]пугивают их мифической угро[illegible] Востока.

Но, что бы ни говорили о нас недруги, факт остается фактом: ранее нищая и безграмотная, наша страна за считанные десятилетия достигла невиданного в истории экономического, научного и социального прогресса.

Все это про[illegible]дило и происходит на ваших [illegible]зах, уважаемые читатели. Большинство наших соотечественников, проживающих в разных странах за тысячи километров от родного края, никогда не порывали духовных связей с ним, всем сердцем осознали и прочувствовали величие своей социалистической Родины. Они гордятся ее достижениями, делят с нами ее радости и горести. Вспомним хотя бы суровые годы Великой Отечественной войны. Сколько сил и энергии было отдано соотечественниками, чтобы отправить на свою сражающуюся Родину продовольствие, одежду, медикаменты, деньги.

С первых дней существования нашего государства оно выступало за мир между народами планеты. Последовательная миролюбивая политика Советского Союза завоевала нашей стране и ее правительству высокий авторитет у всех людей доброй воли на Земле. Активно поддерживают ее и наши зарубежные соотечественники. Многие организации и отдельные земляки выражают эту заботу, регулярно перечисляя деньги в Советский фонд мира.

В канун большого праздника нашей страны — 70-летия Великого Октября мы обращаемся ко всем нашим зарубежным читателям с предложением принять участие в конкурсе на лучшее письмо, посвященное этому событию. Мы просим вас воскресить в памяти былое и, оглянувшись на прожитые годы, рассказать о самых памятных и волнующих событиях, которые оставили глубокий след в вашем сердце. Мы просим вас поделиться своими воспоминаниями о различных периодах жизни Родины, свидетелями которых вы были, рассказать о встречах с родной землей после долгих лет разлуки, поделиться мыслями и о том, в чем вы видите основу и силу нашего социалистического государства, в чем, на ваш взгляд, преимущества советского образа жизни.

У каждого из вас своя любовь к Родине, свое понимание происходящих здесь событий. Каждый по-своему воспринимает и те огромные перемены, которые произошли и происходят в нашей стране.

Некоторые из вас еще помнят, какой была Белоруссия до установления здесь Советской власти. Степан Филютович из Аргентины, например, много рассказывал нам о том, как его родные жили в курных хатах без пола, вместе с домашними животными, о том, что его семья была вынуждена уехать, так как не было своей земли и жить было не на что. В конце беседы он сказал: «Даже если бы вы не сделали ничего другого, я проголосовал бы за Советскую власть лишь за то, что она дала моим односельчанам землю и им не нужно и никогда не придется скитаться по чужим краям в поисках хлеба». Для нашего земляка из Канады Владимира Гаврицкого самыми яркими впечатлениями после поездки на Родину стало то, что любой человек может здесь бесплатно получить медицинскую помощь, образование, навсегда избавлен от страха потерять работу.

Словом, темы ваших писем могут быть самыми разными, ведь все, что имеет сегодня наш народ, чем гордитесь вы, наши уважаемые соотечественники, было бы невозможно без победы Великого Октября.

Уверены, что каждому из вас есть что сказать по этому поводу. Мы ждем ваших писем. Они будут опубликованы на страницах «Голасу Радзімы». Авторам наиболее интересных писем Белорусское общество «Радзіма» и редакция газеты вышлют памятные подарки и сувениры.

Пишите нам по адресу:
**МИНСК-ГСП,
ЛЕНИНСКИЙ ПРОСПЕКТ, 44.
РЕДАКЦИЯ ГАЗЕТЫ
«ГОЛАС РАДЗІМЫ».**



# КАЛАСЫ МІКАЛАЯ МУХІНА

Чалавек, якога вы бачыце на здымку, — вядомы ў нашай рэспубліцы вучоны-селекцыянер. Гэта прафесар Мікалай Мухін, Герой Сацыялістычнай Працы. Нядаўна яму споўнілася 80 гадоў. Узрост паважны. Але прафесар па-ранейшаму актыўны і ў жыцці, і ў рабоце. Ён працуе ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце земляробства, загадвае там аддзелам селекцыі азімых жытніх культур. Лёс Мухіна цесна звязаны з аднаўленнем і стварэннем многіх новых сартоў беларускага жыта.

Яшчэ ў 1973 годзе жыта ў рэспубліцы займала ўсяго 700 тысяч гектараў — трэць у параўнанні з даваенным 1940-м, а ўраджайнасць складала 8 цэнтнераў з гектара. Прычын таму было многа: няправільная тэхналогія вырошчвання, недаацэнка самой культуры, адсутнасць моцных прагрэсіўных сартоў. Тады і пачаў працаваць над селекцыяй жыта М. Мухін. Разам са сваімі супрацоўнікамі ён вывеў вядомы цяпер у СССР сорт «белта»— беларускі тэтраплоідны з высокай ураджайнасцю, з вялікім утрыманнем бялку і пратэіну ў насенні. Сёння ён раянаваны ў Нечарназёмнай зоне, Малдавіі, Стаўрапольскім краі, на Украіне. У нас у рэспубліцы «белта» займае большую частку жытняга кліна.

А пачынаў Мікалай Мухін так. У няпоўныя дваццаць гадоў ён, сын селяніна, атрымаў сярэднюю адукацыю і працаваў сакратаром, а потым і старшынёй сельскага Савета. Але хацелася вучыцца далей. І Мухін паступае ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. У трыццатыя гады ён скончыў яе і прыехаў на дзяржаўную селекцыйную станцыю ў Заазер'е. Там і пачаў галоўную справу свайго жыцця — селекцыю новых сартоў жыта. Працаваў з захапленнем, але ўсё спыніла вайна...

Вярнуцца да любімай справы Мікалай Дзмітрыевіч змог толькі праз гады пошукаў, сумненняў і адкрыццяў. На доўгай гэтай дарозе было ў яго нямала паслядоўнікаў, сяброў. Многія з іх сталі потым вядомымі вучонымі. У іх ліку — слынны беларускі бульбавод Герой Сацыялістычнай Працы акадэмік Пётр Альсмік. Сёння школа Мухіна налічвае 28 кандыдатаў навук, а Валянціна Расянкова стала доктарам сельскагаспадарчых навук.

**В. ПАНЯВІН.**

## ОКТЯБРЬ СПАС ДЕМОКРАТИЧЕСКИЕ ЗАВОЕВАНИЯ ФЕВРАЛЯ

# РОССИЯ МЕЖДУ ДВУМЯ РЕВОЛЮЦИЯМИ

В широко распространенном советологами на Западе представлении две русские революции 1917 года: Февральская — буржуазно-демократическая — и Октябрьская — социалистическая — противостоят друг другу. Считается почти аксиомой, что «тоталитарный» Октябрь ликвидировал демократический Февраль. А «плюралистическая демократия», выросшая из свергнувшей царизм Февральской революции, в лице коалиционного Временного правительства во главе с А. Керенским якобы была единственной исторической альтернативой Октября. Так ли это?

### ПЕРВЫЙ МЯТЕЖ ПРАВЫХ

Когда в начале марта было сформировано Временное правительство, оно получило поддержку и справа, и слева. Правые силы — монархисты и либералы — связывали с ним надежды на стабилизацию положения, проще сказать, на умиротворение революционных масс. Левые же — революционная демократия — надеялись, что новое правительство реализует их основные требования. Лишь большевики — сторонники В. И. Ленина, оказались единственной партией, обратившейся к народу с подлинно революционной программой.

Уже скоро стало проясняться, что ни того, ни другого Временное правительство выполнить не в состоянии и оно действительно является временным. Опасаясь существенно затронуть интересы имущих классов, связанное военными обязательствами, правительство явно не спешило с решением ряда кардинальных проблем, отраженных в лозунгах Февральской революции: мира, хлеба, земли, созыва Учредительного собрания (парламента) и т. д. Этим оно, казалось бы, импонировало правым, но этим же одновременно вызывало и усиливало недовольство «низов».

Результатом был рост революционного движения. Осуществление его лозунгов В. И. Ленин видел в дальнейшем развитии революции по социалистическому пути. Для этого он предлагал создание **коалиционного** социалистического, советского правительства. Исключались только те буржуазные партии, которые не хотели и были неспособны к радикальным решениям проблем, стоявших перед Россией. И хотя правые социалисты поддерживали Временное правительство, рост революционного движения и рост в нем влияния большевиков усиливали тревогу в правом лагере. Там крепла мысль, что правительство оказалось «слабым», попало в плен к революционным организациям (созданным по всей стране Советам рабочих и солдатских депутатов прежде всего) и, по-видимому, не способно остановить «революционную стихию».

Уже в апреле обнаружились первые признаки того движения правых контрреволюционных сил, которое несколько позднее получило название корниловщины (по имени его руководителя генерала Корнилова). Особенность этого движения заключалась в том, что оно развивалось в сочетании легальной деятельности и «подполья». Это диктовалось всей революционной обстановкой, приобретавшей все большую остроту. В т[illegible]кой ситуации выдвижение [illegible]крыто контрреволюционного [illegible]озунга (например, реставрации монархии) было просто невозможно. Это привело бы к консолидации всех демократических сил, что стало бы непреодолимым препятствием на пути осуществления такогс[illegible] зунга. Поэтому лидеры прав[illegible] включавших в себя бывших черносотенцев, монархическую военщину, резко поправевших либералов и просто обывательскую массу, избрали иной путь. Легально они стремились оказывать давление на Временное правительство, чтобы заставить его освободиться от влияния левых организаций и перейти к более «твердому курсу». В «подполье» же формировались конспиративные вооруженные группы и организации, которые готовились действовать в соответствующий момент «вне связи» с Временным правительством. Такие конспиративные группы существовали во вполне легальных «Республиканском центре», «Союзе офицеров армии и флота» и других правых организациях. Все это означало, что в борьбе с «революционной анархией» на фронте и в тылу правые готовы были покончить не только с Советами — этим важнейшим демократическим завоеванием Февральской революции, но и пойти значительно дальше, отстранив от власти Временное правительство и заменив его контрреволюционной диктатурой.

Корниловский мятеж потерпел провал. Решающим фактором его разгрома было решительное сопротивление сил революционной демократии. Приди Корнилов к власти — и на политическую авансцену вышли бы наиболее реакционные силы России. Они решительно отодвинули бы тех, кто до этого момента являлся для них попутчиками и служил «демократическим» прикрытием. Победа корниловщины означала бы установление в России контрреволюционной военной диктатуры, не исключавшей и подготовку восстановления царизма.

### НЕИЗБЕЖНОСТЬ КЛАССОВОГО СТОЛКНОВЕНИЯ

Провал корниловского мятежа стал тяжелым поражением всего правого лагеря. На какой-то период, по крайней мере на весь сентябрь и начало октября, он утратил способность действовать активно и организованно. И тем не менее в его «глубинах» и тогда вырабатывались новые контрреволюционные планы. Можно назвать по крайней мере несколько организаций, которые тайно вели работу по подготовке второй корниловщины. Среди них — Совет общественных деятелей, вобравший в себя монархистов, националистов, правых кадетов, организация во главе с генералом Алексеевым и, наконец, группа «быховских узников» — корниловских генералов (во главе с самим Корниловым), находившаяся «под арестом» в городе Быхове.

Всякие надежды на какие-то совместные действия с Временным правительством правыми отбрасывались. По-прежнему считалось необходимым действовать таким образом, чтобы преждевременно не раскрыть своих подлинных намерений. В качестве прикрытия в данном случае намеревались использовать лозунг «непредрешенчества» будущего государственного строя.

Движение второй корниловщины практически шло параллельно с подготовкой революционных сил к вооруженному восстанию. Классовые силы в стране предельно поляризовались и шли к прямому столкновению. **Практически вопрос сводился к тому, кто начнет действовать первым.** Большевики, возглавляемые В. И. Лениным[illegible] концентрировали свои си[illegible] столице, готовясь решительным ударом свергнуть Временное правительство, быстро терявшее контроль над положением в стране. Это давало единственную возможность отстоять демократические за[illegible]ания Февральской револю[illegible] на их основе пойти дальше — осуществить программу социалистических преобразований, способных вывести страну из кризиса.

Со своей стороны «корниловцы второго призыва» использовали другую тактику. Поскольку первое корниловское выступление оказалось во многом преждевременным, они теперь не спешили. Полагали, что усиливавшаяся разруха в стране либо сама приведет к падению правительства, либо оно будет свергнуто большевиками, что, по их мнению, еще больше будет способствовать разрухе и анархии. В этом случае корниловцы рассчитывали выступить как «партия порядка», получить более или менее широкую поддержку и нанести революции решающий удар. Политический гений Ленина блестяще оценил ситуацию и ее возможную перспективу. В этом контексте ситуации особенно понятно настоятельное требование Ленина в октябре начинать восстание немедленно, ибо «промедление смерти подобно». Необходимо было взять власть до того момента, когда хозяйственная и государственная разруха, вызванная бездеятельностью и беспомощностью Временного правительства, так и не осуществившего ни одного из требований народа, захлестнет организованные силы революции и даст правым политические шансы.

Октябрьская социалистическая революция фактически нанесла превентивный удар всем силам российской реакции и спасла демократические завоевания Февраля. Не будь Октября, Временное правительство, которое всей своей политикой лавирования содействовало правым, было бы сметено ими и заменено контрреволюционной военной диктатурой. За этим последовал бы разгром всех послефевральских демократических организаций, кровавый разгул реакции и реставрация многих элементов свергнутого царского режима.

**Генрих ИОФФЕ,**
**доктор исторических наук.**
(АПН).

## СУЩЕСТВУЕТ ЛИ В СОВЕТСКОМ СОЮЗЕ НАЦИОНАЛЬНАЯ ДИСКРИМИНАЦИЯ?

# КАРАЕТСЯ КАК ГОСУДАРСТВЕННОЕ ПРЕСТУПЛЕНИЕ

Более четверти века назад, 21 марта 1960 года, полиция ЮАР расстреляла в поселке Шарпевиль мирную демонстрацию африканцев, протестовавших против расистского закона о пропусках, который лишал коренных черных жителей этой страны права на свободное передвижение, выбор работы и места жительства. Десятки людей были убиты, сотни ранены. С тех пор по решению ООН 21 марта ежегодно отмечается как Международный день борьбы за ликвидацию расовой дискриминации.

Как известно, в развитие этого своего решения Организация Объединенных Наций еще в 1965 году приняла специальную конвенцию о ликвидации всех форм расовой дискриминации. В ней констатируется, что идеология и политика расизма находятся в вопиющем противоречии с нормами международного права и долг всех государств—создать на своей территории гарантии равноправия перед законом для каждого человека независимо от его расы, цвета кожи, национального и этнического происхождения.

Первым из великих держав эту конвенцию ратифицировал Советский Союз. «Позиция СССР,—говорилось в распространенном по этому поводу среди делегатов ООН документе,—исходит из глубокого убеждения, что расизм во всех его формах не только преступен с точки зрения морали и права, но и представляет собой серьезную угрозу миру и безопасности. Вот почему СССР приветствует любые шаги по пресечению расовой дискриминации и будет оказывать полную поддержку их осуществлению на практике».

Характерно, что для ратификации конвенции Советскому Союзу фактически не пришлось вносить каких-либо изменений в свое внутреннее законодательство, поскольку оно традиционно трактует расовую дискриминацию как государственное преступление. Еще в первой Советской Конституции, принятой в 1918 году, по этому поводу говорилось: «Российская Социалистическая Федеративная Советская Республика, признавая равные права за гражданами независимо от их расовой и национальной принадлежности, объявляет противоречащим основным законам Республики установление или допущение каких-либо привилегий или преимуществ на этом основании, а равно какое бы то ни было угнетение национальных меньшинств или ограничение их равноправия».

Эти же принципы зафиксированы и в ныне действующей Конституции страны. Ее статья 36 гласит: «Граждане СССР различных рас и национальностей имеют равные права. Осуществление этих прав обеспечивается политикой всестороннего развития и сближения всех наций и народностей СССР, воспитанием граждан в духе советского патриотизма и социалистического интернационализма, возможностью пользоваться родным языком и языками других народов СССР. Какое бы то ни было прямое или косвенное ограничение прав, установление прямых или косвенных преимуществ граждан по расовым и национальным признакам, равно как и всякая проповедь расовой или национальной исключительности, вражды или пренебрежения—наказывается по Закону».

Широкие гарантии всех аспектов национального равноправия содержатся также в текущем законодательстве страны. К примеру, каждый человек имеет возможность выбирать для себя язык обучения — преподавание в школах ведется на 57 национальных языках. Нарушение расового или национального равноправия наказывается лишением свободы на срок от шести месяцев до трех лет.

Но самое главное—практически все народы и народности Советского Союза создали для себя свои формы национальной государственности — в виде союзных или автономных республик, автономных областей или автономных округов. Лишь 2 процента населения СССР не имеют собственных национально-государственных образований из-за малочисленности или территориальной разобщенности. Однако и на эти народности и этнические группы также распространяются гарантии национального равноправия, в том числе право на обучение в школе на родном языке, право выступать в суде на родном языке и т. д.

Показательно в то же время, что в отличие от СССР и многих других государств, ратифицировавших конвенцию о ликвидации всех форм расовой дискриминации, к ней до сих пор не присоединились Соединенные Штаты Америки. Причины такой их позиции заключаются, по мнению многих международных обозревателей, в том, что основные положения этого документа оказались в полном противоречии с внутренней ситуацией в США, где не только негры, но и представители других национальных меньшинств подвергаются жестокой дискриминации, а против коренных жителей страны — индейцев — осуществляется политика подлинного геноцида.

Более того, при нынешней администрации положение в области национальных отношений стало в США почти критическим. Приостановлено, в частности, претворение в жизнь и без того ограниченных законов о десегрегации в школах, федеральное правительство отказалось от борьбы против дискриминации при найме на работу.

Проводя политику национальной дискриминации внутри страны, администрация США одновременно активно поддерживает расистские режимы в других районах мира. Это касается и режима ЮАР, сохранение которого на юге Африки вопреки воле подавляющего большинства государств является возможным лишь благодаря его политической, экономической и военной поддержке со стороны ряда стран Запада, и прежде всего США. Именно Соединенные Штаты более двадцати раз блокировали принятие Советом Безопасности ООН решения о введении всеобъемлющих санкций против ЮАР. Последний раз это произошло совсем недавно — 20 февраля 1987 года, когда США и их ближайший союзник Великобритания наложили вето на резолюцию, требующую применения обязательных санкций против режима апартеида, проект которой был предложен группой неприсоединившихся стран.

В противоположность Соединенным Штатам Америки Советский Союз решительно и последовательно выступает за применение эффективных мер по выполнению решений ООН, направленных на изоляцию и бойкот южноафриканского режима. СССР настаивает также на безусловном выполнении резолюций Организации африканского единства и других международных организаций, требующих ликвидации апартеида и любых других форм расовой дискриминации.

**Валерий ТЕЛЕГИН.**

Вячаслаў АДАМЧЫК

# ГОД НУЛЯВЫ

## УРЫЎКІ З РАМАНА

(Заканчэнне. Пачатак у №№ 8—12).

XXX

У камеры пахла сырою прэсна-гаркаватаю вапнаю.

Пад самаю столлю ў кутку шурпатым лішаём зашалушылася чорна-зеленаватая цвіль.

...Міця сцішыўся ад сваіх збэрсаных і пацяжэлых, як павучына ў расе, думак. Прыпомнілася, як тры тыдні назад, азыравата-вільготнаю раніцаю, арыштавалі яго, надзеўшы далікатна-маленькія наручнікі на Алесіным надворку, калі ён бег з гумна ў хату. Ён думаў, што гэтак аднаго і пагоняць у Дварчаны; рэвізію яны зрабілі без яго і спехам, ператросшы толькі кніжкі. Бацька з Алесяю паспелі толькі ў пагон ужо на мосце, што яшчэ пах сырою смаліною, перадаць торбу з салам — паліцыянты прыспешвалі, нават не далі зайсці ў бацькаву хату, каб узяць цяплейшую марынатку ды які аловак з каетаю — на пісьмы.

І сшытак, і аловак, пературосшы ў марынатцы кішэні, забраў адразу ж Гура. Адзежу, праўда, аддаў ужо ў ляску, дзе стаялі дзве падводы з гэтакімі, як Змітрык, пасажырамі, набранымі, мусіць, за ноч па навакольных вёсках...

Змітрык толькі паспеў падаць бацьку руку, чуючы яго сухую шурпатую далоню і бачачы нейкія пякучыя і, здаецца, злыя бацькавы вочы.

Цяпер яны ўспомніліся зноў: сухія, з маўклівым упіканнем.

Пасля дварчанскага пастарунка, дзе арыштаваных пратрымалі да вечара, даўшы ўвобмель толькі напіцца вады, быў ужо вагон, што стаяў у тупіку станцыі за пакгаузам.

Тут у адным купэ са Змітрыкам апынуўся дварчанскі лістаноша, нібыта таксама немец, а за дашчанаю перагародкаю хрыплаватым голасам загаварыў дварчанскі магазінер Давыдоўскі.

— Чуеце, куды нас вязуць? Чуеце, куды? — пытаўся ён у маўклівага і насупленага паліцыянта, што вартаваў купэ.

— Чаго ты, — супакойваў яго пануры і быдта абыякавы да ўсяго лістаноша. — Крывая дарога каля простай уецца — недзе ж будзем.

Ужо толькі як выехалі з Баранавіч, за перагародкаю зноў глухавата, нібы толькі сам да сябе, нехта загаварыў:

— Ці не ў Бярозу? Га? Быў я там.

— Не хваліся пабыўшы, а хваліся пажыўшы, — зазлаваў тады і затрапятаўся Давыдоўскі.

— Не адракайся, пажывеш і ты.

Тут у Бярозе, ужо на турэмным пляцы, разгароджаным калючым дротам на квадраты, куды іх гналі, як перапуджаных авец, між двух радоў стражы, што пад крыкі «бегам марш», прыскальваючы для меткасці адно вока і крывячы ад асалоды рот, няшчадна секла іх гумамі, арыштантаў разлучылі. А ў колішняй кавалерыйскай казарме пры доктарскім аглядзе, пакінуўшы ў чым маці нарадзіла, Змітрыка яшчэ раз пераптраслі, перашукалі і, адабраўшы торбу з харчамі, упіхнулі ў гэтую камеру, дзе сядзеў толькі перабінтаваны немец. Ён і зарагатаў, убачыўшы, як Змітрык спыніўся каля дзвярэй, трымаючы абедзвюма рукамі свае порткі, з якіх малады вугравачы стражнік вышмаргнуў папружку і жыўцом вырваў два гаплічкі, скоса пазіраючы на вузенькі сяннік на дашчаных нарах — а дзе ж спаць яму?

Немец варухнуў забінтаванаю, на падвязцы, рукою, паказаў на сяннік каля сябе:

— Біттэ! Месца хопіць, як-небудзь памесцімся. А то мне абрыдла аднаму. Каб не было так смутна, гадаваў павучка. Ён там у куточку жыве. А цяпер ты... Ну што ж, тры павучкі — будзе весялей.

Змітрык прыглядаўся да яго мышаватага без пагонаў і адпоратых пятліц мундзіра, на якім блішчалі белыя алюмініевыя гузікі.

Немец дагадаўся, маргнуў лупаватымі вачмі:

— Мне пакінулі, не выпаралі. Я ж нямецкі афіцэр, лётчык.

І, мусіць, убачыўшы, што гэта здзівіла і адначасна заінтрыгавала Змітрыка, пацвердзіў:

— Так-так, баявы лётчык. Я зрабіў два налёты на Варшаву, на трэцім мяне збілі. Гэтыя польскія свінні, што пачалі з намі вайну.

Пасля таго, як Змітрык прымасціўся на абслізганым да матавага бляску дашчаным палку, зноў махнуў перабінтаванаю галавою з шырокім, што перасякаў наўскасяк зморшчаны лоб, бруднаватым паскам. Твар у яго быў хударлявы, і дзве глыбакаватыя баразны крутымі дугамі акружалі злы тонкі рот.

— А за што інтэрнавалі сюды? — перапытаў ён яшчэ раз па-польску, трымаючы перад сабою на падвязцы забінтаваную руку.

— За вершы.

— Як? Ты пішаш вершы? — лётчык нават адсунуўся. — Дай глянуць на цябе.

— Пісаў... і нават па-беларуску.

— Чакай, а хто такія беларусы? — немец павар[illegible]ў кароткімі кончыкамі св[illegible] пальцаў, што выглядвалі з бінта.

— А вы хіба не чулі? — у Змітрыка ад нервовасці, ад гэтых нядаўніх удараў гумавымі палкамі, што яшчэ смылелі і нылі на руках і спіне, затурзалася адно вока.

— Не наракай [illegible] мяне, я лётчык, я, вядома, чуў пра Расію, а пра вас — не. Такіх народаў шмат, што страцілі сваю самастойнасць. Яны не маюць прыроднае сілы і цвёрдае гордасці перад богам і людзьмі. Таму яны мяккага характару і нораву, як ты. І не злуй. Во мой сяннік. Невядома, ці табе яшчэ прынясуць.

І яны першую ноч спалі разам на гэтым смярдзючым, з перацёртымі ў сечку стружкамі, сенніку, прагаварыўшы да поўначы. Лётчык расказаў, што гадаваўся сіратою ў старэйшай за яго на семнаццаць год сястры. Таксама пісаў вершы. Любіў філалогію. Вывучаў польскую мову. Збіраўся нават паступіць ва універсітэт, але на якія кошты ён мог вучыцца: з сястрою таксама прылучылася бяда — яна папала пад трамвай, ёй адрэзала абедзве нагі, і ён змушаны быў пайсці ў лётную школу.

— Слухай, — павярнуўся ён да Змітрыка і задыхаў у патыліцу, — я таксама пісаў вершы. Як усе мы, я пісаў пра моц нямецкага духу. Ты, пэўна, ведаеш, усе паэты хочуць перадаць гэтае «gemüht» — глыбокае адзінства душы і ўсю жыццёвую паўнату яе існавання. Але бачыш, замест паэта я стаў вайсковым лётчыкам, скідаў бомбы. Я некага ўжо забіў і, пэўна, астануся жыць. Гіне звычайна той, хто робіць дабро.

— Пачакай, — перапыніў яго Змітрык. — Выходзіць, я нікога не забіў, значыць, я згіну?

— І гэта не толькі твой лёс, але і лёс твайго народа. Разумееш. Усе лімітрофы трапяць пад нейчую ўладу.

— А хто астанецца?

— Толькі той, хто мае сілу вялікага духу і вялікае памкненне ад асабістай волі.

Змітрык стоена слухаў пад сонны шэпт дажджу на аконнай блясе гаваркога, што насумаваўся, як труцень на адзіноце, лётчыка.

— Зрэшты, мо паможам вам, каб стрымаць перад Еўропай Расію. Мы хочам вытруціць хваробу чалавецтва, разнесеную жыдамі, — бальшавізм. Калі мы прайграем — катастрофа, значыць, гэтыя з шырокімі тварамі і распляскаными насамі азіяты пакорацъ свет. Але ты не бойся, сюды прыйдуць немцы. Яны прынясуць цывілізацыю. Бачыў, як нізка над лагерам ляцелі нашы самалёты. Значыць, мы кантралюем усю тэрыторыю Польшчы.

Цяпер Змітрык стаіўся зноў, прыслухоўваючыся да натужнага гуду самалёта, цягучага і доўгага. Сапучы насамі, на шары квадрацік акна — там ужо цямнела ранняя асенняя ноч — задзіралі галовы ўсе арыштанты. На вышках, дзе звычайна стаялі кулямёты, не было святла. Не запальвалі электрычнасці і ў турэмным двары.

...Насцярожанасць камеры раздзёр ужо моцны ды ўладны голас нямецкага лётчыка:

— Ціха вы! Варта ўцякае. Заўтра тут будуць нашы, вы чуеце?

— А Расія дзе? Дзе Расія? Яна ідзе сюды. Чуеш ты, шваб? — перакрывіў лётчыка і зашылеў, быдта ўшчэмлены ў расколіну, Давыдоўскі.

— Ты не бядуй, ты сядзець тут не будзеш, для цябе будзе гета. Ты парушыў усе законы жыцця. Тваё месца толькі ў гета. Ты павінен таксама нешта стварыць, а не жыць з чужое працы.

— Што, я з тваё працы жыву? Я? — зашамацеў на сваім сенніку Давыдоўскі. — А ты ведаеш, колькі для Германіі, для ўсяго свету зрабілі яўрэі?

— Яны выдумалі толькі бальшавізм.

Але гэтую сварбу перарваў раптоўны крык на калідоры:

— Таварышы!

Жалезная настылая ціша, здаецца, разам са столлю ўпала на ўсіх, а потым неспадзяваны і моцны ўдар збіў гэты голас.

Маўчалі ўсе і нават, здаецца, не дыхалі, чакаючы зноў гэтага балючага сярод сырых і глухіх сцен камяніцы адчайнага крыку.

Але замест яго недзе далёка ў канцы калідора балюча-жалезным, ад якога шэрхла скура і ледзянела душа, скрыгатам зарыпелі цяжкія дзверы.

А тут у камеры ўсе цяжка, з перадыхам саплі, насцярожана і чутка ловячы ціш.

Стаіўшыся, Змітрык нават не чуў, як праваліўся ў мяккую чарнату сну: пераходзіў невядомую рэчку, густая быстрая вада збівала яго з ног. На беразе стаяў Давыдоўскі і крычаў:

— Дай руку!

Ад гэтага крыку Давыдоўскага Змітрык і прачнуўся:

— Уставай, чуеш!

Змітрык нарэшце ўцяміў, дзе і што з ім.

— Чуеш, камеры ломяць.

— А можа, правакацыя? — спытаў глуха і асіпла, як са сну, Болек Грушка.

З малога закратаванага і да палавіны забітага бляхаю акна ў камеру цадзілася скупое шарае святло блізкага дня.

Адчайна і звонка, быдта ў пустую бочку, білі недзе ў акутыя дзверы камеры.

— Таварышы, — паўтарыўся той, абарваны сярод начы, голас. — Слабода.

— Уцякла варта! — крыкнуў нехта другі, звонкім і танчэйшым. — Выходзьце на слабоду!

Змітрык убачыў, як да дзвярэй ірвануўся лётчык, закрыўшы плячмі замок, павярнуўся тварам сюды да камеры: у лупаватых злых вачах адбівалася і раз'ятрана блішчала святло з малога закратаванага акна, на лобе распаўзлася, аслабла тугая павязка. Правую забінтаваную да локця руку ён выцягнуў з перавязі, падняў яе і абапёрся на тоўсты выступ дзвярнога праёму, нібы загарадзіўшы ёю дзверы, левую, як баксёр, трымаў напагатове...

— Загадваю ўсім аставацца на месцы, — па-польску, як ужо мог, закрычаў зноў перабінтаваны палонны немец.

— Хто ты такі, ну хто, што ты загадваеш? — не стрываў ужо Змітрык, чуючы, як грыміць і ломіцца ўвесь калідор, уздрыгвае турма ад цяжкіх удараў жалеза і трэскату сухога дрэва.

— Я — інструктар, ваш найбольшы начальнік — і загадваю спакойна чакаць новай улады. Яна разбярэцца.

— Ды сюды ідуць не немцы, а бальшавікі, гэй ты, дурны шваб! — зарагатаў Грушка.

— Вас не выпусцяць і бальшавікі, вы ворагі для ўсіх. Вы палітыканы. Вы не прывыклі нічога рабіць, толькі бунтаваць. Вы шкодныя для ўсіх улад. І найп[illegible] ён — гэты юда, — лётчы[illegible]дарваў ад сцяны сваю забінтованую руку і паказаў на Давыдоўскага. — Ён і яго паганы род прывыклі жыць з працы чужых рук. Чалавецтва і бог павінны выракчыся і асудзіць іх на знішчэнне.

— [illegible]цы, ды што мы стаімо, — [illegible]чаў заікацца Давыдоўскі. — Бі, лупі яго, хлопцы!

Давыдоўскі падскочыў да лётчыка, але той быў ужо нагатове, і ўдар яго быў неспадзяваны і меткі — якраз між ног Давыдоўскаму.

Давыдоўскі глуха, з глыбокім унутраным крыкам зароў і аб'ехаў, ашчаджаючы абедзвюма рукамі балючае месца.

Змітрык бачыў, што яму з Грушкам збіць так проста гэтага рослага і, мусіць, няблага вымуштраванага для бойкі немца наўрад ці ўдасца.

— Не бойся! — нібы чуючы Змітрыкаву насцярогу, крыкнуў Грушка. — Заходзь з тылу, толькі смялей, — і закрычаў ужо немцу: — Одэйдзь, свіня!

...Раз'юшанага і нібы адышоўшага ад памяці Давыдоўскага ўжо не адцягнулі б, каб у замку дзвярэй не забрашчаў, не зашчоўкаў ключ...

— Выходзь на волю, усе хто ёсць! Сюды ідуць бальшавікі! Мы чырвоная гвардыя! — крыкнуў мужчына з абвіслымі вусамі, у карычняватым кажушку з чорным каўняром. За яго спіною стаялі арыштанты ў шарых палатняных куртках і шарых турэмных лодачках-пілотках на галаве.

— А гэты хто, забінтованы? — паказалі на немца, што падымаўся, заліты крывёю, з падлогі.

— Гэ, гэта шваб,— цяжка адсопваўся Давыдоўскі. — Ён не пускаў нас з цэлі*.

— А-а, — задзёр галаў вусаты мужчына. — Іх тут шмат. Мы з імі вунь бой у варотах вытрымалі. Яны спадзяваліся, што прыйдуць немцы, але праліччыліся...

— Трэба затрымаць гэтую брыду, паскудства гэта, — зморшчыўся Давыдоўскі, выскокваючы наперадзе Змітрыка на калідор.

— Халера знае, што з імі рабіць, — сказаў чалавек у дублёным кажушку і павярнуўся да немца спіною.

Не адкрыўшы замок, у суседняй камеры білі драўляным цяжкім тапчаном у дзверы. Аблушчваўся тынк, крышылася сухая цэгла. Ад пылу едкае вапны пяршыла ў горле.

Змітрык кінуўся па вузкім калідоры ў той бок, куды беглі ўсе — да выхаду, спатыкаючыся на старых, стоптаных да вузлаватых сукоў дошках, шарае, ніколі не фарбованае падлогі.

...Уздоўж паркана абапал ружаватай брукаванай вуліцы бялелі нейкай першай радасцю пасаджаныя тут каля турмы, як на здзек, ліловыя і белыя астры, і Змітрыку рэптам убачыліся Баранавічы, за густым бэзам чырвоны цагляны дом, яна, Чэся, у белай з сінім каўнерыкам і ў сіні гарошак сукенцы.

І ад нечага ўжо новага, неспазнанага да яе, страпянулася сэрца.

— Хто на Баранавічы? — крычалі недзе на гэтай ружаватай, што хавалася ў тумане, вуліцы.

Змітрык павярнуўся на той далёкі голас і неспадзявана ўбачыў перад сабою нямецкага лётчыка; разлезлая павязка наязджала яму на вочы, падпухла і крываточыла ніжняя губа.

Ён таксама, згледзеўшы Змітрыка, падскочыў да яго:

— Што, гэта праўда, сюды ідуць бальшавікі?

— А ты што, ніяк яшчэ не паверыш?

Лётчык падняў з вачэй раз'еханую павязку:

— Запомні: тут будзе Германія.

— Не, ты праліччыўся, сюды ідуць Саветы, — крыва ўсміхнуўся Змітрык і павярнуў туды ў волкі туман, куды па бруку цякла ў шарых палатняных штанах і куртках з «лодкамі» на астрыжаных галовах, акалелая, з сінімі пакрэплымі рукамі, купа людзей.

...Міцю выперадзіла босая худая маладзіца і, сарваўшы з чорнае, ажно сінее, каротка падстрыжанае галавы хустку, замахала ёю:

— Няхай жыве слабода!

Ёй на шашы нядружна адгукнуліся асіплыя прастуджаныя галасы.

Задыхаючыся, трацячы ўжо астатнія сілы, Змітрык апярэдзіў маладзіцу, выскачыў на шашу і ўбачыў там зялёную, укчечаную наламаным бярозавым веццем высокую жардзяную браму. Над ёю чырванеў волкі ад туману і нерухомы сцяг.

Каля брамы спынялася і закручвалася, як нечакана затораная вада, гэтая бясконцая грумада людзей.

Сюды па яе надыходзіў, нібы падмінаў пад сябе шашу, магутны, з выразным жалезным лязгам, грукат танкаў.

Каля Змітрыка цяжка соп, задыхаўся ў суконным каўпаку, у суконным шэрым сівым бурносе, у зморшчаных хадаках стары мужчына. Збоку яго, заглядваючы ў няголены твар, стаяў гадоў дзесяці босы, з вывернутаю наперад пятою калекі хлопчык.

— Ты скажы, ты малады, ты ведаеш, — стары лёгка чапіў Міцю скручанаю, у сініх жылках, дрыготкаю рукою. — Няўжо праўда, што бальшавікі не вераць богу?

— Праўда, дзядзька, — Міця жахнуўся, што сказаў гэта.

Стары завярнуўся, пайшоў на мокрую, у тлуставата-блішчастых лужынах дарогу, што разразала роўнаю паласою кусцістую зялёную рунь.

— Дзед, куды ты, дзед? — крычаў яму хлопчык. — Чолгі вунь, ідуць чолгі!

Змітрык убачыў, як туды, на гэты лязгат і грукат, ірванулася і захліснулася ў бегу густая грумада людзей. Падаючы, устаючы і зноў бегучы насустрач гэтаму невядомаму, да сцішнаты моцнаму, нечуванаму грукату.

* Цэля — камера.

**НЕЎМІРУЧАЕ, БЕСКАМПРАМІСНАЕ МАСТАЦТВА ТАРКОЎСКАГА**

# ЯГО ФІЛЬМЫ ПРОЙДУЦЬ СКРОЗЬ ШУМ ЧАСУ

**У канцы 1986 года ў Парыжы на 55-м годзе жыцця памёр выдатны савецкі кінарэжысёр Андрэй Таркоўскі. Пра яго творчасць, пра яго складаны жыццёвы шлях расказвае вядомы крытык, сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў СССР Андрэй ПЛАХАЎ.**

Гісторыя кіно ведае нямала майстроў, якія кожнай сваёй новай работай даказвалі, наколькі невычэрпныя магчымасці экраннага відовішча: тут і захапляючыя сюжэтныя перыпетыі, і тэхнічныя трукі, і сувеце маляўнічых вобразаў, і магія акцёраў-зорак... Значна менш у кінематографе сапраўдных аўтараў, паэтаў экрана, для якіх камера стала натуральным і неабходным сродкам самавыказвання. Яшчэ менш тых, дзякуючы каму кіно стала неад'емнай часткай культуры XX стагоддзя. Андрэй Таркоўскі — адзін з іх.

Ставячы сваіх герояў у сітуацыі трагічнага выбару, Таркоўскі сцвярджаў ідэю самакаштоўнасці асобы, бясконцую веру ў дабро, якое ў канчатковым выніку павінна абавязкова перамагчы — і ў гісторыі, і ў чалавечай душы, і ў мастацтве.

«Свет, расколаты папалам»— так вызначалі крытыкі мастакоўскую сутнасць «Іванава дзяцінства» — першага фільма Таркоўскага, які адразу ж увайшоў у сусветныя кінаанталогіі, ярка ўвасобіў высокія маральныя і эстэтычныя прынцыпы савецкага кіно пачатку 60-х гадоў.

Герой фільма, падлетак, амаль яшчэ дзіця з яго *безабароннай, адкрытай душой*, сутыкаецца з вайной, насіллем і сам становіцца ўдзельнікам жорсткай барацьбы. Што адбываецца ў яго душы, як дэфармуюцца ў свядомасці Івана ўяўленні аб доме, дзяцінстве, мацярынстве? Вось што цікавіць Таркоўскага. І настолькі, што ён амаль зліваецца са сваім лірычным героем, і гэта не здзіўляе: дзіцячыя гады самога рэжысёра былі абпалены вайной.

Праходзіць год-другі — і Таркоўскі пачынае здымаць «Андрэя Рублёва», біяграфічную стужку пра вялікага сярэдневяковага мастака, аднаго з духоўных гігантаў рускай культуры. Тут атаясаміцца з героем было больш цяжка. Акрамя імені, рэжысёра аб'ядноўвала з ім толькі тое, што абодва бескарысліва служылі мастацтву. Але не, не толькі гэта: для кожнага лёс Расіі быў яго асабістым лёсам. Перажыванне ўсяго, што адбываецца на роднай зямлі сёння, і ўсяго, што адбывалася на ёй многа стагоддзяў назад, заўсёды складала маральную аснову рускай культуры, прыроду яе надзвычай інтэнсіўнай духоўнасці. І ўзоры найвышэйшай гармоніі, ад Рублёва да Пушкіна, і гучныя дысанансы ў духу Дастаеўскага, і адкрытасць усяму лепшаму, што ёсць у сусветным мастацтве, — усё гэта адлюстравалася ў светаадчуванні Таркоўскага, вызначыла яго ліра-эпічны лад, найвялікшую сур'ёзнасць, з якой ён успрымаў сваю мастакоўскую місію.

Адным з самых выдатных твораў рэжысёра стала «Люстэрка» — фільм, звязаны з асабістымі перажываннямі аўтара, з лёсам яго маці і іншых блізкіх, з усведамленнем сябе часткай агульнанароднай гісторыі. Гэтая карціна аб'ядноўвае рэальнасць і сон, сапраўдныя падзеі, перайначаныя памяццю, і стыхію падсвядомасці. У мудрагелісты свет гэтага фільма, пабудаваны на асацыяцыях, увайсці няпроста, але той, хто ўваходзіць, знаходзіць такое багацце пачуццяў і вобразаў, з якім цяжка што-небудзь параўнаць у кіно.

Здавалася натуральным, што сын вядомага, паважанага паэта Арсенія Таркоўскага, выбраўшы прафесію кінематаграфіста, адухатварыў яе высокай паэзіяй. Сапраўды, кінематограф Таркоўскага — паэтычны, лірычны, вобразны. Але паэзія яго асаблівая. Яна нічога агульнага не мае з тэорыяй «чыстага мастацтва», заклапочаная не эгацэнтрычным самасузіраннем, а перш за ўсё агульным станам таго свету, у якім жыве і творыць мастак.

У фільмах Таркоўскага ўзноўлена асаблівая духоўная рэальнасць: у ёй гранічна агалены чалавечыя страсці і даведзена да напалу драма ідэй, якія хвалююць чалавецтва. Мастак глыбока сучасны, ён быў заклапочаны адной з галоўных праблем нашага часу — праблемай захавання цывілізацыі, прадухілення глабальных катаклізмаў. Умовай выжывання планеты, яе культуры была для яго здольнасць захаваць той узровень духоўнасці, які на працягу стагоддзяў выклікаў да жыцця прыклады самаадданасці і маральнага стаіцызму. Аб гэтым — знятыя рэжысёрам на Радзіме ў ф[illegible]стычным антуражы фільм[illegible] Салярыс» і «Сталкер», аб гэтым яго карціны «Настальгія» і «Ахвяра», якія з'явіліся ўжо на Захадзе.

Заваяваўшы ў сваёй краіне высокую артыстычную рэпутацыю, Таркоўскі не ад[illegible]ў, дастаткова цяжка ўва[illegible]іў у свядомасць шырокай [illegible]ублікі. У нялёгкі для савецкага кінематографа перыяд 70-х гадоў задумы рэжысёра далёка не заўсёды сустракалі разуменне і падтрымку з боку кінакіраўніцтва, ён усё часцей адчуваў адзіноту, горыч і непрыкаянасць. Апынуўшыся ўдалечыні ад Радзімы, якую ён фанатычна любіў, Таркоўскі перажыў цяжкі душэўны крызіс і пакутлівую фізічную хваробу. Смерць напярэдадні 1987 года перашкодзіла яму вярнуцца на рускую зямлю — і гэта асабліва крыўдна, таму што незадоўга да гэтага, восенню 1986 года, фільмы яго вярнуліся на экраны СССР і з вялікім поспехам ідуць і сёння.

Майстэрства Таркоўскага — плоць ад плоці айчыннай культуры, якая нарадзіла яго. І тая яе галінка, якую ён апладатварыў сваімі мастакоўскімі намаганнямі, абавязкова будзе плоданасіць. Не толькі таму, што ўспрыняты, атрымалі развіццё знойдзеныя ім прыёмы паэтычнай кінавыразнасці. Сапраўдныя вучні Таркоўскага — а яны ёсць у сённяшнім савецкім кіно — перанялі не фармальныя знаходкі, а перш за ўсё шчырасць яго адносін да мастацтва, якое здаўна ўласціва рускай традыцыі і разглядаецца як высокая духоўная місія.

І няважна, што кіно — мастацтва тэхнічнае, калектыўнае. У век масавых камунікацый Таркоўскі быў адным з нямногіх, хто змог зацвердзіць перад усім светам самабытнасць і прыярытэт чалавечай асобы на фоне ўсяго, што яе нівеліруе і прыніжае. Таму што асоба — па-за зменлівай модай, і толькі яна здольна, у тым ліку і ў экранным мастацтве, несці святло сапраўднай духоўнасці і высокай мастацкасці. Толькі яна застаецца роўнай самой сабе, праходзячы скрозь шум часу і яго супярэчнасці.

*НЕЗВЫЧАЙНАЯ ВЫСТАЎКА Ў БРЭСЦЕ*

# ВЫРАТАВАНЫЯ ШЭДЭЎРЫ



Зажмурыцца—менавіта такое ўзнікае жаданне, калі трапляеш у гэты невялікі пакой. І нават калі знаходзішся тут на працягу некалькіх дзесяткаў хвілін, нельга прывыкнуць да гэтага казачнага зіхацення рубінаў, сапфіраў, аметыстаў, якія шчодра ўпрыгожваюць старадаўнія іконы...

Нейкае цудоўнае святло выпраменьвае літаральна кожная рэч, што ўваходзіць у незвычайную экспазіцыю выратаваных шэдэўраў сусветнага мастацтва, якая адкрылася нядаўна ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі.

Чаго тут толькі няма! Старажытныя японскія і кітайскія вазы — нібы фантастычныя фарфоравыя чараўнікі трымаюць на сабе цэлы сусвет нейкіх дзіўных істот. Бронзавыя гадзіннікі з падсвечнікамі фірмы «Павел Бурэ», фарфоравы посуд таварыства Кузняцова, сярэбраныя шаблі і кінжалы з мудрагелістымі аўтографамі збройнікаў Усходу, калекцыя самавараў, невялікія сярэбраныя скульптуры, адлітыя майстрамі рускіх ювелірных майстэрань Аўчыннікава і Грачова, цудоўныя мастацкія палотны...

Складаны, а часам і трагічны лёс напаткаў усе гэтыя незвычайныя рэчы. Аматары і знаўцы мастацтва змаглі сустрэцца з імі сёння толькі дзякуючы пільнасці работнікаў Брэсцкай таможні. Менавіта яны выратавалі для нас тое, чыю каштоўнасць не вызначыш ніякімі грашыма, канфіскавалі ў кантрабандыстаў, вярнулі дзяржаве. Ёсць знаходкі, нечаканыя нават і для мастацтвазнаўцаў. Сярод іх невядомая работа рускага жывапісца М. Урубеля—акварэльны эскіз славутага палатна «Дэман», якое захоўваецца ў Траццякоўскай галерэі. Даследчыкам пакуль што не ўдалося выявіць звестак аб ёй нават у самых падрабязных каталогах, але аўтарскі подпіс і заключэнне аўтарытэтнай камісіі экспертаў не пакідаюць сумненняў: выяўлены твор вялікага майстра.

— А гэта тры эцюды Айвазоўскага. Побач — Мясаедаў «Марскі пейзаж», таксама арыгіналы, — знаёміць наведвальнікаў з узорамі жывапіснай спадчыны галоўны хавальнік музейных фондаў Л. Гапасюк.

І становіцца неяк няўтульна ад думкі, што ўсе гэтыя каштоўнасці нашага народа маглі быць у яго проста выкрадзены. Вывезены за мяжу.

Па вядомых толькі спецыялістам прыкметах на адным з палотнаў з тыльнага яго боку было выяўлена кляймо Эрмітажа. Аказалася, што карціну выкралі з музея яшчэ за некалькі гадоў да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Не далі ніякіх вынікаў намаганні паліцэйскіх сышчыкаў. Палатно назаўсёды выкрэслілі са спісаў буйнейшага расійскага музея. І вось праз восемдзесят гадоў сустрэча...

— Та[illegible]ня перадала нам шмат пал[illegible]наў, ранейшае знаходжанне і аўтарства якіх не разгадана пакуль і па сёння,—расказвае дырэктар Брэсцкага абласнога музея Т. Слесарук.—Аднак вядома, што [illegible]зрост іх старажытны: XV[illegible]XVIII стагоддзі...

Карпат[illegible]вую работу вядуць сёння ў музеі лепшыя эксперты і мастацтвазнаўцы краіны. Стараюцца ўстанавіць не толькі аўтарства «невядомых» палотнаў, але і высвеліць іх лёсы. Незвычайнымі экспанатамі вельмі зацікавіліся таксама спецыялісты мастацкіх музеяў Ленінграда, Украіны, Арменіі, Літвы. Не пакінулі іх без увагі і вучоныя Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР.

Існуючая экспазіцыя часовая. Разлічана пакуль на год: за гэты тэрмін супрацоўнікі Брэсцкага музея плануюць паказаць сваім наведвальнікам каля 500 розных каштоўных экспанатаў. У недалёкай жа будучыні ў горадзе адкрыецца спецыяльны музейны філіял, у якім выратаваныя шэдэўры паселяцца назаўсёды.

Сёння асноўная частка багатай калекцыі захоўваецца ў запасніках музея. Немагчыма нават уявіць сабе, колькі сапраўднага цуду, выробленага самымі таленавітымі з нашых суайчыннікаў, чакае тут свайго часу. За дзесяць з невялікім гадоў у музейныя фонды паступіла толькі каля паўтары тысячы ікон, якія спрабавалі незаконна пераправіць за мяжу. Прычым кожная пятая—у багатай сярэбранай аправе або з каштоўнымі камянямі. Некаторыя з іх нават распілаваны на часткі. Парушальнікі лічылі, што такая мера дапаможа ім паспяхова схаваць творы мастацтва...

— Не спыняюцца спробы вывозіць мастацкія каштоўнасці з нашай краіны,—расказвае начальнік Брэсцкай таможні Н. Алексяюк.—Гэтым займаюцца і іншаземныя госці. Але што ж ты за госць, калі цягнеш за сабою чужую рэч?..

Вядома, ніякія хітрыкі тых, хто імкнецца прадаць душу—сваю і свайго народа,—не могуць прытупіць пільнай заклапочанасці сапраўдных грамадзян краіны. Яны робяць усё, каб талентам нашых продкаў маглі захапляцца і мы, і дзеці нашы, і ўнукі.

**Наталля ГРОМАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: гэтыя самавары, посуд, па-мастацку аздобленая зброя, адабраныя ў кантрабандыстаў.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ, Э. КАБЯКА.**





## *СТАРОНКІ, ЯКІЯ РАСКРЫЛІ ТАЙНУ*

Цяжка было дапусціць, што старадрукаваная кніга без пераплёту, якая доўгі час праляжала без увагі ў фондах рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі ў Гродне, пры пільным разглядзе акажацца прыметным культурным адкрыццём. Карпатлівыя даследаванні, праведзеныя старшым навуковым супрацоўнікам музея Ігарам Трусавым, пацвердзілі, што знаходка унікальная. Ёю аказаўся «Псалтырь с восследованием», выдадзены ў Гродне каля 1790 года.

Кірылічныя кнігі XVIII стагоддзя гэтага рэгіёна — вялікая рэдкасць нават для самых поўных збораў краіны. А гэта і зусім была прадстаўлена адзіным экземплярам, які захоўваецца ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя Леніна ў Маскве.

У хуткім часе наведвальнікі музея атэізму і гісторыі рэлігіі ўбачаць у экспазіцыі адрэстаўрыраваную знаходку.

# АДЛЮСТРАВАННІ

Рэспубліканскі Дом работнікаў мастацтваў запрасіў мінчан на выстаўку работ фотакарэспандэнта ТАСС — БЕЛТА Уладзіміра Мяжэвіча. Гэта першая спроба аўтара падвесці вынік сваёй шматгадовай работы.

Але сказаць, што гэта першая сустрэча гледача з творчасцю У. Мяжэвіча, будзе няправільна. З дня ў дзень, з года ў год чытачы сустракаюцца з яго фатаграфіямі на старонках газет, часопісаў, шматлікіх ілюстраваных выданняў. Дыяпазон яго здымкаў надзвычай шырокі. У фатаграфіях Уладзіміра Мяжэвіча знаходзіць адлюстраванне жыццё рэспублікі ва ўсёй сваёй шматграннасці.

Выстаўка так і называецца — «Адлюстраванні». І гэта не проста фіксацыя фактаў. Гэта адлюстраванні ў аўтарскім пераламленні, у глыбокім асэнсаванні рэчаіснасці, што ўзмацняе яе ўспрыняцце, акцэнтуе ўвагу на галоўным. Аўтар цудоўна адчувае форму. «Беларусь — краіне», «На стадыёне», «У майстэрні» — гэтыя і іншыя фатаграфіі яскрава ілюструюць гэты бок яго творчасці.

Поўныя псіхалагізму партрэты В. Быкава, М. Савіцкага, В. Елізар'ева.

У нечаканым ракурсе паказвае У. Мяжэвіч артыстаў беларускага балета. Святу на сцэне папярэднічае цяжкая, часам знясільваючая штодзённая праца. І ў гэту абстаноўку ўводзіць нас серыя работ, прадстаўленая на выстаўцы. Не пакіне абыякавым гледача і трыпціх «Усё жыццё». Тэма не новая ў мастацтве, але пабудаваная на кантрастах, прымушае спыніцца і задумацца. І яшчэ пра адно. Уладзімір Мяжэвіч па сваіх жыццёвых пазіцыях аптыміст. Такая і яго фатаграфія — жыццесцвярджальная, чалавечая, цёплая.

**Я. КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ работы У. МЯЖЭВІЧА з выстаўкі: «Урок»; «Хатынь»; «Дачка лесніка»; «Восень».**









*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# ГІСТОРЫЯ АДНОЙ МАРКІ

Вестка аб перамозе лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Расіі застала У. І. Леніна ў эміграцыі. Усімі думамі і ўсім сэрцам імкнуўся Уладзімір Ільіч на Радзіму. І вось пасля амаль дзесяцігадовага выгнання позна вечарам 3 красавіка 1917 года ён прыязджае ў Петраград. На Фінляндскім вакзале тысячы рабочых, салдат і матросаў наладзілі свайму правадыру ўрачыстую сустрэчу. Пад бурныя апладысменты і прывітальныя воклічы Ленін падняўся на бранявік і звярнуўся да рускага рэвалюцыйнага пралетарыяту і рэвалюцыйнай арміі, заклікаў іх да барацьбы за сацыялістычную рэвалюцыю. Трыбунай, з якой выступіў Ільіч, паслужыў бранявік «Вораг капіталу», які ўваходзіў у састаў Петраградскага бранявога аўтадывізіёна.

Гэта падзея адлюстравана на савецкіх паштовых марках. Адна з іх мае цікавую гісторыю. У 1932 годзе, да 15-й гадавіны Вялікага Кастрычніка, была выпушчана серыя мініяцюр, на адной з іх быў паказаны У. І. Ленін на браневіку. З чаго рэпрадуктавана гэта марка? Ніякага ж мастацкага палатна к таму часу на гэтую тэму яшчэ не было. Аказалася, што аўтар маркі, мастак А. Суво раў, паказаў на ёй адзін з кадраў нямога фільма «Кастрычнік», знятага вядомымі савецкімі кінарэжысёрамі С. Эйзенштэйнам і Р. Аляксандравым у 1927 годзе. Гэта першы ў гісторыі сусветнага кіно фільм, у якім быў створаны вобраз Леніна. Але кім? Вядома, што першым прафесійным выканаўцам ролі правадыра рэвалюцыі быў акцёр М. Шчукін. На марцы ж паказаны першы выканаўца ролі Леніна ў кіно — рабочы з Новарасійска Васіль Нікандраў, знешне вельмі падобны да Ільіча.

В. Нікандраў вельмі сур'ёзна рыхтаваўся да сваёй работы ў фільме. Чытаў творы Леніна, хадзіў па музеях, сустракаўся з людзьмі, якія ведалі Леніна, працавалі з ім. Некалькі разоў бачыўся з Н. Крупскай і М. Ульянавай, цікавіўся, якім быў Ленін у сям'і, у быце. Старанна і падоўгу адпрацоўваў паходку Леніна, яго характэрныя жэсты, манеру размаўляць.

Сцэна, адлюстраваная на паштовай марцы, была знята ў Ленінградзе ў жніўні 1927 года.

Пра далейшы лёс першага выканаўцы ролі Леніна ў кіно расказаў яго сын — заслужаны артыст БССР Павел Нікандраў:

— Бацька вельмі хацеў хутчэй паглядзець «Кастрычнік» на экране. Ён пасля здымак сабраўся дамоў у Новарасійск, дзе, на думку рэжысёраў, павінна была адбыцца прэм'ера фільма. Перад самым ад'ездам я прывёў бацьку ў свой тэатр на спектакль «Улада». У фае да нас падышоў рэжысёр Малога тэатра Празароўскі, якога таксама ўразіла падабенства бацькі да Леніна. Ён прапанаваў яму выступіць у ролі Леніна ў спектаклі Малога тэатра «1917 год». Так мой бацька стаў і тэатральным артыстам. Праўда, ненадоўга. Ён іграў роўна тры месяцы, да закрыцця сезона».

«Моцнае ўражанне на гледачоў зрабіла апошняя сцэна спектакля, у якой з'яўляецца жывы Ленін у выкананні Нікандрава, фенаменальна падобнага да Ільіча»,—пісаў тады ў рэцэнзіі на спектакль «1917 год» часопіс «Современный театр». Памёр В. Нікандраў у Новарасійску ў канцы Вялікай Айчыннай вайны.

На ўпамянутай марцы з фільма «Кастрычнік» У. І. Ленін паказаны на браневіку. Да моманту здымак фільма сапраўдны бранявік «Вораг капіталу» не быў знойдзены. У фільме была выкарыстана другая бронемашына. А які ж лёс ленінскага браневіка? І-шы лятучы бранявы чырвонагвардзейскі атрад, у склад якога ўвайшла гэта машына, штурмаваў Зімні палац, змагаўся з белымі часцямі пад Кахоўкай, удзельнічаў у баях на Перакопе, ваяваў на многіх участках франтоў грамадзянскай вайны. Здарылася так, што след яго згубіўся,

Толькі ў 1939 годзе легендарную машыну знайшлі і перадалі ў Ленінградскі філіял Музея У. І. Леніна. У 1940 годзе бранявік «Вораг капіталу» быў адрэстаўрыраваны і ўстаноўлены на гранітным пастаменце каля будынка музея, дзе ён стаіць і сёння. .

**Леў КОЛАСАЎ.**

# ВЯРТАЕЦЦА ВЯСНА!

Толькі першыя промні сонца заглянулі ў акно, я падхапіўся і, не марудзячы, выйшаў на падворак. Паветра было спакойнае, бадзёрае, нібы толькі абудзілася ад сну. За ноч ля плоту прыселі парыжэлыя гурбы снегу. Са стрэх звісалі доўгія ледзяшы. На вярбе ў промнях сонца грэліся густыя белыя коцікі.

Сонца ўзнімалася вышэй і вышэй. Са стрэх пайшла лёгкая пара. Чародка маленькіх шэра-зялёных сінічак гойдалася на галінцы яблыні. Убачыўшы мяне, пачырыкалі, відаць, штосьці сказалі адна адной і не селі на павешаны кавалачак сала, а пераляцелі на грушу. «Паспеем, няхай пойдзе»,— відаць, вырашылі яны.

Дома не сядзелася. Пакуль не раскавасіла дарогі, прайду ў лес.

Па падсушанай марозікам пачарнелай дарозе ідзецца лёгка. Па баках у гурбах падталыя брылі. Далёка, як вокам кінуць, загадкавая цішыня шырокіх палёў. Снег толькі ў разорах, на загонах чорныя праталіны. Скора над імі зазвініць жаўрук, першы вяшчун вясны.

Выйшаў на ўскрай палянкі, дзе зімою выразалі лес. Над ёю вісіць празрыста-цёплае паветра. Палянка чыстая, снегу няма, чарнеюць шырокія вогнішчы, на якіх палілі галлё, толькі белыя пні зіхацяць на сонцы паміж парыжэлай ігліцы. За палянаю на верхавіне высокай яліны гойдаліся дзве вароны.

— Вяртаецца вясна! Ідзе жаданая, прыемная, як маладосць! — сумна ўсміхнуўся і пайшоў на дарогу.

**Я. КРАМКО.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 487.